# НІНА МАЦЯШ

# РАЛЛЯ СУРОВАЯ



* * *

Твайго палону прагну я —
Не адпускай мяне, работа.
Хай дыхае у твар спякотай
Ралля суровая твая.

Адно на ёй, адно на ёй
Каласаваць таму спакою,
Што непастойнасцю сваёй
Знявечаную памяць гоіць.

Але з прасветласцю якой
Сцвярджаць я свету не баюся
Сваёю кожнай баразной:
Жыву!
Люблю!
Не наталюся!

## ІМПРЭСІЯ

У высі бялёсай — чорнае голле.
На чорнай галіне — яблык пунсовы.
Галубіць яго
                    позірк зялёных вачэй
Жанчыны, цёплай і грэшнай,
Быццам сама Зямля,
Якая,
    бы яблык пунсовы,
                    гайдаецца
На чорнай галіне галактыкі...

Impressio - уражанне

## ТРЫ ПЕСНІ

Колькі песень ты, мамачка,
некалі ведала,—
мора!
Калі рэдка спяваецца,
мусяць яны забывацца.
А тры песні твае
не канчаюцца нават у горы:
Песня працы,
Яшчэ — песня працы,
І зноў — песня працы.

## СНЕГАПАД

Замецъ —
З белага свету ды з чыстага поля,
Як дзівосна туліцца гарачай шчакою
Да шалёна-вясёлага твару завеі...
Зноў, як некалі, толькі у добрае веру.
Зноў, як колісь,
пяшчотай заходзіцца сэрца.
Толькі белая замець. Ні гора. Ні смерці.
Белы вір раўнавагі. Ні здрады. Ні звады.
Не канчайцеся, вейце, мае снегапады...

## БЯРОЗАВЫ СОК

Дзякуй табе, суседзе,
За твой нечаканы дар:
Калі і ёсць яна недзе,
Казачная вада,
Жывая вада, якую
Адшукваюць на загой —
Прынесеную табой,
Глыткамі яе смакую.

Зусім звычайнае дзіва:
Бярозавы сок.
З небыцця
Бярозавы сок радзімы
Вяртае мяне да жыцця.

# МАНАЛОГ СЛАНЕЧНІКА, ТВАЕ ВОЧЫ І Я

«Мне б — як усе... А промень веснавы
Маім лістом, маім пялёсткам стане —
І ўжо не йдзе й на момант з галавы
Бязлітаснае сонечнае ззянне.
І заўтра, як учора, як заўжды,
Не ў сіле адарваць ад сонца твару.
Няўцямна залатыя павады
Усё лаўлю з-за навальнічнай хмары.
Як быццам лета можна затрымаць,
Як быццам нешта ў гэтым свеце вечна...»

Снягі. А мне зіма — як не зіма,
А мне ў тваіх вачах
цвіце сланечнік!

* * *

Калі б на свеце меўся бог,
Услед за мудрацамі Ўсходу я
Такой малітваю яго маліла б:

— О, божа, дай мне сілы не змяняць
Таго, чаго змяніць не ў сіле я;

— І дай мне мужнасці зрабіць усё,
Што я ў жыцці маім зрабіць павінна;

— І дай мне мудрасці, каб разлічыць,
Што — не пад сілу мне, а што — мой
абавязак...

# ДВА ДРЭВЫ

Прыпыніцеся, дні, пачакайце!
Лёт шалёны...
...Пасадзі пад акном маім, бацька,
Рабіну і клёна.

Я не ведаю дрэва, якое
Красамоўней рабіны
Мне сцвярджала б заўсёднай парою,
Што нягоды любыя
Можна мужнай душой адолець
(Так, як маці,)
І з падсечаным нават голлем
Цвету не страціць.

Я не ведаю дрэва, каб гэтак,
Як клён, гаварыла
Пра ранімасць бацькоўскага свету,
Пяшчоту і сілу...

Пасадзі пад акном маім, бацька,
Рабіну і клёна.
Век над лёсам дачкі калыхацца
Санцалюбным іх кронам.

* * *

З якой цярплівасцю
Прыладжвае бусліха
Галінку крохкую ў сваё гняздо,
Пакуль яна тапырыцца пакіне,
Пакуль
Ў буслянкі адзінства непаўторнае
Не ўпішацца.

О, як зайздросна мне майстэрству
гэткаму!
І ў празарлівай птушкі я прашу —
Хіба ж дарэмна менавіта з ёю
Свае найлепшыя чаканні людзі
звязваюць?
Прашу я:
— Навучы мяне, маўклівая,
На вострай, на драпежнай баране
Крыўд, непапраўнасцей, няўдач, памылак
ЗніТоўваць так —
Да будня будзень —
Дні мае,
Каб з іх няўхільна-шэрага гнязда
Умела станавіцца на крыло —

Уздрыгліва, няўклюдна, неўміруча! —
Як буслянятка першае тваё,
Мая,
Мной непрадбачаная,
Радасць.
Цярпенню навучы мяне,
Маўклівая...

# ЛАЗІНКА

Зусім скалела рыжая лазінка.
Пад панаваннем лютаўскае белі
Зялёны колер стаў амаль паданнем,
Якое ледзь ліпела на краёчку
Нямыслімае памяці яе.
Але аднойчы варухнуўся корань —
І пацяплела ўзрушана зямля,
І лужынкай блакітнаю апаў,
Не ўцяміўшы, што здарылася, снег.
Ускрыкнула ад неспадзеву кнігаўка:
Заместа зледзянелае лазінкі
Ускалыхнуўся сонечны прамень!
І ў воклічах уражанае птушкі
То ўсмех, то недарэчнае рыданне...

Як хораша разгублены ты сёння:
«Чаму цяпер не раніца, а вечар?..»

Так накалела рыжая лазінка...

# СІВІЗНА

Колькі прымаразкаў было,
Покуль снег упаў нерастайны...
Намяцеліла, намяло.
Але вочы глядзяць світальна,
Але рукі праз стому і снег
Выпраменьваюць шчырасць і спогадзь;
Каб запозненай, труднай вясне
Не забыць да сэрца дарогу,
Каб вясне яго не праміпуць,
Колькі б ёй шукаць ні прыйшлося,
Каб хоць што-колечкі з лепшага сну
Збылося...

# САКАВІК

Разветрыла. Глыбока растае.
Капеж аркестрам струнным раскавана
Тарочыць гамы веснія свае.
Пад снегам толькі луг адзін схаваны.

А поле — чорнае.
                    Ці не таму
Яно найпершым вызваляе грудзі
Ад наледзі загубнай,
                    што яму
Цяпло сваіх далоняў дораць людзі?

* * *

Як доўга не вяртаюцца буслы.
Даўно на рэках лёд у вырай сплыў.
Даўно ўжо крыламі, нібы рукамі,
Разводзяць над лазою жоўтай кані
І абтрасае звонкі свіст шпачыны
Пылок з сярожак вольхі і ляшчыны.
На ўгрэвах паадскоквала трава.
...Як доўга не хмялее галава.
Так рады дружнай веснавосці вочы —
А сэрца радавацца што ж не хоча?
Няма яму вясны, яшчэ няма.
На чорна-белых берагах — зіма.
Дзён чарната ды бель даўгіх начэй...
А сонца зіхаціць усё ярчэй!
Усё вастрэй напружваецца слых:
«А можа, сёння прыляцяць буслы?»
Нібы ад іх прылёту акрыяе
Душа.
        Нібыта не цябе чакае.

* * *

Як страшна б'е пярун!..
Спыніся, міг!
Стань вечным, непрытомны міг
здранцвення:
Яшчэ ў безабароннасці сваёй
Дуб не ўсвядоміў, што ўжо спапялёны,—
Спыніся, міг няведання!

...Трашчыць,
Палае,
Курчыцца ад болю дуб зялёны!..

# ЛЮБЕ

...Усе задумы, словы, крокі, сны —
Яны не абрываюцца труною:
У душах блізкіх ядрацца яны
Неўразумелай, жорсткаю віною.

А свет — ранейшы?.. І не той, і той:
У кожнага свой смех і свае слёзы.
Атаву спеліць позні травастой,
І кнігаўкі крычаць ў апошніх лозах.

Усё, як пры табе. І я сама
У клопатаў ранейшых у палоне,
Як пры табе. Але цябе — няма,
«Няма й не будзе...» — сэрца захалоне.

Дык што ж такое, гэтае жыццё?!.
Я азіраюся: твой сын малодшы
На ўзмежжы, колючыся аб асцё,
Збірае ў жменьку цёплыя валошкі...

## БАЛАДА МАРЫ

Дзівосным пер'ем грае цёплы птах,—
Ажно шчыміць і замірае сэрца
Ва ўзбуджана-шчаслівай паняверцы
Раскошу гэту бачыць блізка так.

І рукі узлятаюць да яе,
І пальцы чуюць трапятлівасць цела!
Але,
    зіхоткая,
            амаль нясмела
Ірвецца птушка прэч
                і растае...

Асірацела гойдаецца трон —
Вечназялёны куст, што цуд той гушкаў.
Была такой вясёлкаваю птушка —
Скуль на далоні чорнае пяро?

# БАЛАДА ПАМЯЦІ

Цвіла пяшчотным лёнам неба сінь.
Жаданая, чаканая, уладная,
Ішла —
          не ў госці йшла, а назусім
Да чалавека
               Радасць Безаглядная.

Ёй бачылася ўжо, як шумна ў дом
Увойдзе гаспадыняй раным-ранечька.
...Сурова заступіў дарогу дот,
Аброслы мёртвым зеллем і крываўнікам.

# ЧЭРВЕНЬСКАЯ БАЛАДА 1941 ГОДА ДНЯ 25-га

*Памяці Юрыя Папова, дваццацігадовага стралка-радыста, камсорга 130 СБАП; памяці ўсіх лётчыкаў памянёнага палка, паўшых на Бярозаўшчыне ў першыя дні Вялікай Айчыннай.*

Сівелі азёры з бяды і адчаю,
Чарнелі ад гора крывавага дня.
Крычала ў бяспамяцці, білася чайка:
У небе гарэла яе чаяня...

Пра што ён думаў у баі няроўным?
Душыла хіжа свастыка зямлю,
Расхлістаную, да пакуты родную...
Пра што ён думаў у баі няроўным?
Фашысцкія знішчальнікі, як восы,
Па двое наляталі на яго.
О неба, неба, стань ты смертаносным
Для подлага захопніка твайго!

І помстай адзываліся нябёсы
За руйнаваны беларускі дом —

Палалі танкі на шашы між сосен,
З-пад ног чужынца вырываўся дол.

Даруй, матуля! Некалі было
Цябе згадаць бязвусаму салдату:
Радзіму б засланіць сваім крылом!..
Падлічваць Перамога будзе страты...

Сівелі азёры з бяды і адчаю,
Чарнелі ад гора крывавага дня...

...Віецца з журбой непазбыўнаю чайка:
У небе згарэла яе чаяня...

# ЗВЫЧАЙНАСЦЬ ПАД МІРНЫМ НЕБАМ

Гарэзяць на падворку дзеці.
Курыць туманам нізкім пожня.
Усё звычайна ў гэтым свеце:
І першы ўсхліп, і ўздых апошні —
Як дым над комінам вясковым,
Як тонкі месяца акрайчык.
Спакон вякоў было такое:
Смяюцца людзі, людзі плачуць.
Ступае на кацінах лапках
Ноч зорна-жнівеньскае масці.
Чаму ж ад кволай думкі зябка—
Што згэтуль знічкай мне прапасці?
Усё звычайна ў гэтым свеце,
І першы ўсхліп, і ўздых апошні—
Былі каб толькі вечна дзеці,
І дым над комінам, і пожня!
Ды як набыць бясстрашнай сілы
Без горычы, без наракання
Сысці ў нябыт, а што любіла —
Пакінуць тут усё дазвання,
Калі й надзеінка не свеціць,
Што ўпэўніцца зноў будзе можна:
Усё звычайна ў гэтым свеце—
І першы ўсхліп, і ўздых апошні?..

# КРЫНІЦА Ў АРЭШНІКУ

Ты з якога стагоддзя прабіўся, струмень?
Так утульна з табой у гушчэзным арэшніку.
Што аддаў ты зямлі, каб прыдбаць узамен
Гэту сілу і гэту крышталёвасць
бязгрэшную?

Што ты хочаш паведаць, такі гаваркі,
Моршчыш лоб, нібы сілішся ўспомніць
штосьць важнае,
Што?
...Раптоўна нямею, уражаная:
Крутануў вір каменне. Лёгка.
Быццам вякі.

# ШЫПШЫНА

Гляджу на куст шыпшынавы з тугою:
Не ўберaглі яе калючкі цвету.
Дзеля чаго ж яны тады на голлі?
Маўчыць маё дасведчанае лета.

Ажно да ўзлесся з сонечнай палянай
Усеўладарна падступіла жыта.
Нямала і ў мяне галін зламана
Чужым і ўласным хапатлівым бытам...

Спакой — не здзьмуць апоўдню
й парушыны
З ліста, ён і не сіліцца дарэмна.
Я знаю: быць шыпшынаю шыпшыне,
Пакуль зямлі трымаецца карэннем.

І ўсё ж на куст гляджу, гляджу
з тугою—
Не ўберaглі яго калючкі цвету.
Дзеля чаго яны тады на голлі?
Маўчыць маё дасведчанае лета.

## ВАСІЛЬКІ

Як рана васількі завасільковелі,
Ці гэта я спазняюся? Няўжо
Мінулася вясна? Адна аскоміна
Перапарэлых, выгарклых дажджоў...

Спазняюся. Ва ўсім... І рассыпаюцца,
І выпадаюць звёны спакваля,
Як поры года з пачуццёвай памяці,
Памкненняў, дружбы звёны...
А ў палях

Красуе жыта! Як і трэба ў чэрвені.
Не знае глеба ленасці душы.
Каля дарогі ў каласоў гушчэвіне,
Як вокліч лета, васілёк дрыжыць.

# ЯЛІНА

Не пытаю, яліна, чаму
З боку поўдня пышней тваё голле:
Неаднойчы і нада мной
Сцюжа люта скуголіла.

І зусім не пытаю, чаму
Ты ніколі у поле не выйшла:
Без сябрыны побач і я
Не выжыла б.

# ДЗЕНЬ ПЕРШАЙ СУСТРЭЧЫ

Цік-такае гадзіннік.
Беспаваротна падаюць секунды
І несціхана ўсё глыбей, глыбей
Дзень нашай першай стрэчы
Засыпаюць.
Гара секунд —
Напластаванне друзу
Быцця майго зямнога...
Ды часам
Дзень сустрэчы першай нашай
Устрапянецца, павядзе крыламі,
Дзівосны, несмяротны, быццам Фенікс,
Устане з тлену часу
І ўзіраецца
Дапытліва, трывожна, недаўменна:
Што сталася нядобрае са светам?
Што ў ім увогуле не так, як трэба?
Чаму
Цяпер забараняць я мушу
Уласнай песні, каб яна не смела
Гучаць найлепшай нотай —
Тваім імем?

# ЧЭРВЕНЬСКІ ВЕЦЕР

У зялёным плашчы наросхрыст
Па гаях вецер чэрвеньскі ходзіць.
Толькі блізкіх збліжае ростань.
Толькі з блізкімі час у згодзе.

Ох, які ты вымаклы, вецер!
Травы ў пояс табе, разутаму...
То дажджынка з ліста, ці з сэрца
Ападае пяшчотны смутак?



Не сніся мне. Навошта снішся мне?
Усё між намі высвнена, вырашана,
І пра ўгавор наш помню я і ў сне.
Не сніся мне.

А стрэч не пазбягай. Не бойся стрэч.
Цябе маёй пяшчотай не абражу я.
Рук не ўскладу на шалі тваіх плеч.
Не бойся стрэч.

Насупраць сядзем. Ты ўсміхнися мне.
І я ў адказ — спакойна і нязмушана.
Пра угавор наш помню я і ў сне...
Не сніся мне.

# ...ЛЯ ВОЗЕРА

Зялёны бераг. І вада — зялёная.
І вочы — як трава і як вада.
...Чаму вы, хвалі, хоць імкнеце ўдаль,
Аднак усюды — берагоў палонныя?

Дзе б ні стаяў над возерам, нязменна вы
То гнеўныя, то ціхія — да ног...
Зялёная вада. Пяску клінок.
І вочы — зелянкавыя, праменныя.

* * *

Калі яшчэ ён, новы ранак? —
Дзень толькі-толькі што сышоў.

На ўсходзе ж воблакам агняным
Прадвесце сонца, не дажджоў.

# Ў САДЗЕ

Быццам не змяркае, не паўзмрок,
А лістота ў садзе пагусцела.
«Ты несправядлівая! — папрок,
Як удар прыцэльны.—
Жорстка ад слабых патрабаваць,
Што пад сілу ўпэўненым і дужым».
Патыхнула пыльная трава
Заляжалым плюшам...

Стрыманы, кароткі ветру ўздых
Цішыню напятую парушыў,—
І раптоўна дрэвы і кусты
Калыхнуліся да дзвюх ігрушын,
Прыўзняліся, каб хоць трохі стаць
Вышай каля іх, высокіх самых:
Там, на іх разгорнутых лістах
Сонца вечаровае пісала.

* * *

Памылюся — хай на мне віною.
(Так спакусна з некага спытаць...)
Не былое маем за спіною—
Колішняе заўтра наша там.

І не ў сёння ў роздуме мы крочым —
У адзіным вымярэнні час:
Будучыня
зазірае ў вочы,
Будучыня
выбірае нас.

# ПРОСТА КАНСТАТАЦЫЯ ФАКТА

Казалі тыя, хто пабачыў веку,
Казалі мне, што час — найлепшы лекар:

Ён незагойную загоіць рану,
Калісьці беспараднаму — дасць раду.

Я ж не прымала мудрых слоў на веру:
Так пахла — да бяспамяцця — аерам,

Так першабытна уставала поўня,
Каб нашу непрыкаянасць запоўніць,

Каб паяднаць і думы нашы й вусны...
Наіўнасць горкая, з цябе смяюся!

## РАКА

— Твая песня пра што, вада?—
І па хвалях-радках чытаю:
«Што мінулася, не шкада,
Што мінулася, бласлаўляю.
Нават страты і нават боль
Светлай нотай маёй адзначу.
А над тым, што ніколі са мной
Не адбудзецца —
плачу, плачу...»

# СОН-ТРАВА

Якая дзіўнасць... Аж неверагодна...
Цвярозы ліпень, чабаровы свет,
І раптам — кропляю нябёс пагодных —
Званок світальны сон-травы ў траве.

Якая дзіўнасць... Дзе, у чым прычына,
Ў якой нястачы вод, святла, цяпла,
Што кветка толькі зараз расцвіла,
Свой май у ліпні толькі прыручыла?

Якая дзіўнасць... Я крануць не смею
Бунтоўны, не ў пару, яе агонь:
Ў цвярозасці чабору страсна спее
Званок няспраўджанага сну майго.

* * *

Мы стрэнемся, хоць нас ужо не будзе,
Не будзе ні мяне, ані цябе.
Наступнікі, нязнаныя нам людзі,
Аявяць немагчымае цяпер.
І той, хто нас адорыць стрэчай гэтай—
Сярод уласнай лютае зімы
Знячэўку словам нашым абагрэты—
Не будзе нават ведаць ён, што мы
Нягучнай тою, запаветнай песняй,
Што болем адазвалася на боль,
Нябачана ў чужой душы ўваскрэслі.
...А тут я размінулася з табой.

# ЛЯ БЕЛАГА ВОЗЕРА

...І ўскіне возера, ускалыхне
З таемнага прадоння белы ранак.
Мой светлы друг!..
Вялікшае, што мне
З вялікшых радасцей наканавана.

Мой шчодры друг!..
Адзінае, над чым
Уладны тлен не будзе мець улады,
Калі, як скнара, прымецца лічыць
Па мне
маю
за права дыхаць
плату.

Усё ягоным будзе, нат пітво
З кастальскае крыніцы, нат маўчанне.
Без намагання толькі вобраз твой
Узмые горда з рук яго кашчавых.

Калі ж пад восень кіне цераз луг
Дарогу месяц, выштукуе срэбрам,
Я і з нябыту ўбачу: ты, мой друг..
Душ зніставанасць...
Хваль азёрных грэбні...

# КАЛЫХАНКА МАМЕ

Быць разам выпадае нам так мала.
Забудзь трывогу вечную сваю,
Прыляж, мая натомленая мама,
Як некалі ты мне, табе спяю.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.

Хоць кропля з абяцанага нам маем
Збываецца праз мулкія гады.
Прыляж, мая даверлівая мама,
Спяю табе, як мне спявала ты.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі—
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.

Любоў нябёсы над табой трымае,
Любоўю зораць дні ў тваім акне.
Прыляж, мая усмешлівая мама,
Спяю табе, як ты спявала мне.

Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.

# КРЫНІЦА

Бярозавым святлом упала поўня
У ціха разгайданы ветрам гай.
Абавязкова некалі прыпомніць
Табе твая шчаслівая туга
І гэты гай, і апантанасць поўні.

Пачуццяў іншых абарваўшы прывязь,
Абавязкова вернецца сюды
Твая душа,
                    як па жывіцу, прыйдзе
Да гэтае крынічнае вады,
Пачуццяў іншых абарваўшы прывязь.

Яна адна тут, ясная крыніца.
Цяпер ты і не думаеш, бадай,
Што толькі ў ёй адзінай і бруіцца
Жыццё, якім гаворыць з намі гай.
Любоў... Яна — як гэтая крыніца...

Бярозавым святлом упала поўня...

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Табе здаецца, незалежны ты,
Раз не са мной — недасягальны, значыць.
А я схілюся да рачной вады,
І ў ёй не мой, а твой адбітак бачу.

Табе здаецца, вольны ты казак,
Калі ў пачуццях гэткі асцярожны.
А варта мне адно слаўцо сказаць—
І ўздрыгнеш ты шчасліва і трывожна.

Калі чым насцярожыла, забудзь.
На незалежнасць я не пасягаю.
Мне б толькі твае вочы прысягалі,
А будзь такі, як ёсць. Ты толькі будзь!



Ці гэта лёс мяне аберагае,
Ці смерць мяне пакуль што адвяргае?
Дыхне нябыт у твар, і верне неба,
Бы так і трэба...

# ЗУСІМ НЕ ЖАРТ

Абяцаю табе:
Не пярэчыць ніводнаму слову,
Усміхацца на кожны праменьчык
усмешкі тваёй,
Па жаданню твайму
быць дасціпнай ці злою,
Адгукацца, як рэха,
на твой непастойны настрой.
Стаць тваім двайніком
і ва ўдачы скупой, і ў адчаі,
Галаву на загубу панесці,
калі б загадаў.
Абяцаю пакору сваю, абяцаю—
Покуль воля твая
будзе
з воляй маёй
супадаць!

# ПЕСНЯ МАТЧЫНАЙ МАЛАДОСЦІ

...Замерла хвіля, як матыль на шпільцы:
Знарок ці незнарок?
Сабе ці мне? —
Вяртае мама песняй маладосць сваю:
...Насыпаў пшанца
Аж па калянцá,
Наліў вадзіцы
Аж па крыліцы.

Галубка не есць,
Галубка не п'е,
На крутý гару
Ўсё плакаці йдзе.

— Галубка мая,
Шызакрылая,
Якая ўдалася
Ты журлівая!

Ой, ёсць у мяне
Семсот галубоў.
Лятай, выбірай
Па сэрцу любоў.

— Ой, лятала я,
Выбірала я,
Не знайшла такога,
Як страціла я...

А на старой бярозе за акном
Кажнюткі ліст імя тваё калыша;
А за парогам кожная сцяжынка
Звіваецца ў дарогу — да цябе;
І што ні міг, сваёй кажнюткай нотай
Святло і цень — табе — складаюць гімн.

# МЕСЯЧНАЯ НОЧ

Цяпер што звязвае нас?
Якія ніці?
Адчужана-роўны бляск:
Поўня ў зеніце.

Такі чалавечы пагляд
У гэтай поўні...
Улада з усіх улад:
Помню.

Хлусіў ты, хвалёны час.
Няма адхлання.
Глыбозным праваллем між нас
Прызнанне.

Дзень забыўся пра ўсход.
Спяць людзі.
Маркота з усіх маркот:
Не любіш.

* * *

З блакіту задыхаецца зямля,—
Асмяглай зеленню травы й лістоты,
Калоссем — з прагай спеласці —
                                        ў палях
Да неба цягнецца услед грымотам.
Ды ліўні ўваскрасальныя ўсё міма:
Ты не любімы.

Бяскроўныя нябёсы і ралля
У колеры адным — у шэрым — стынуць.
Ні зоркі барвы; зводдаль спакваля
Нагортваецца снежная пустыня;
Адзіна ветру свіст здзічэлы, грубы:
Сам больш не любіш.

* * *

Чакаю цябе. Так жаўронак світання чакае,
З чужой чужаніцы дадому вярнуўшыся
ўночы.
Чакаю цябе. У сваім неспакоі блукаю,
Які мне то памяць тваю,
то няміласць прарочыць,

Жыву без цябе, як без лесу бяроза
на ўзгорку —
Высокая, дужая, толькі заўжды
ў адзіноце,
Нязломная, толькі ці ведае хто,
як ёй горка
Адной грэцца сонцам, калі гэта сонца
ўзыходзіць...

Чакаю цябе.

# ЗМЯРКАННЕ

Вячэрнія птахі запелі.
На змену спякотнаму дню
Задумнаю свежасцю спеляць
Маю цішыню.

І вокліч, і высвіст, і шчэбет,
І рэзкі, наструнены крык.
Гарыць аблачыначка ў небе,
Жарынай гарыць.

Яе прахалода папеліць
Галінкаю не варухне...
Вячэрнія птахі запелі...
Як молада мне!
І як мне на дзіва спакойна!
Скацілася сонца ў лясок.
І — не апусцела шпакоўня...
Усё яшчэ збудзецца, ўсё!

## ЮЛІУШ СЛАВАЦКІ
## з польскай

# ГІМН

*Сумна мне, божа! У сто пераліваў*
*Захадам граеш ты мне прамяністым,*
*Гасіш валошкавай хваляй імклівай*
*Зорак агністасць...*
*Хоць залаціш неба й мора так гожа,—*
*Сумна мне, божа!*

*Голаў падняўшы, як колас нішчымны,*
*Моўчкі стаю ў здаваленасці ленай.*
*Воку чужому такім ціхамірным*
*Здамся, напэўна.*
*Ты толькі ведай, што сэрца трывожыць,—*
*Сумна мне, божа!*

*Нібы малое, што не адпускае*
*Маці без плачу,— я блізкі рыданню*
*Бачыць, як сонца мне з хвалі кідае*
*Промень расстання.*
*Хай яно ззянне назаўтра памножыць,—*
*Сумна мне, божа!*

*Тут, над марскою бурлівою пашчай,—*
*Сто міль ад берага, сто да другога,—*

*Сёння буслоў цёплакрылых пабачыў*
*У лёце строгім.*
*Я ж іх вітаў і над польскаю пожняй,—*
*Сумна мне, божа!*

*Тое, што думаў пра смерць я так многа,*
*Роднага дому не ведаў гадамі,*
*Быў як вандроўнік у цяжкіх дарогах,*
*Пад перунамі,*
*Што не ўгадаць, дзе ў магілу палажаць,—*
*Сумна мне, божа!*

*Помніку-стражу ніколі не ўсведчыць,*
*Дзе будуць тлець мае белыя косці.*
*Тым, хто на могілках — па-чалавечы*
*Век мне зайздросціць.*
*Прыстань мая быць спакойнай не можа,—*
*Сумна мне, божа!*

*Часта дзіця на радзіме далёкай*
*Шлях мой малітвай гарачай асвеціць.*
*Ды не к айчыне нясе маю лодку,—*
*Гоніць па свеце.*
*Мусіць, малітва мне ўжо не паможа,—*
*Сумна мне, божа!*

*Гэтае неба пры сонца заходзе,*
*Гэту раскошу вясёлкавых цудаў*

*Новые людзі і цераз стагоддзе*
*Бачыць тут будуць.*
*Пакуль не зміруся, што знікнуць*
*я можу,—*
*Сумна мне, божа!*

*УЛАДЗІСЛАЎ БРАНЕЎСКІ*
*з польскай*

# *МАРКОТА І ПЕСНЯ*

*Мо нічога ў жыцці й не засвеціць?*
*Яшчэ год, яшчэ два, яшчэ ікс...*
*Маіх думак чорныя лебедзі*
*адплываюць Віслаю ў Стыкс.*

*Ведаў я, што мне сэрцам тут грызці,*
*што за ўдары прыняць мне найперш,*
*не разлікам, не хцівай карысцю*
*будаваў я жыццё і верш.*

*Моц сардэчная ж песні маркотай*
*пераедзена, быццам іржой,—*
*цемру ночы здушанай нотаю*
*толькі крык прашывае мой.*

*Ды навек юны я ў крыку гэтым!*
*Перуны? — Што ж, хай б'юць у мяне!*
*Не паддамся я гэтаму свету,*
*свету гэтаму крыкну: не!*

***ЯН ГУШЧА***
***з польскай***

* * *

*Благаславёна часіна, якая ўсім дорыць*
*вяртанне...*
*Звыкла гаўкаюць цюцькі, напавер,*
*у парыве вітання.*

*Граблі месяцца ў рад каля клуні;*
*і шумна, і людна;*
*зараз кожны, каб змыць спёку дзённую,*
*рушыць да студні.*

*Кій заместа каня — я нашуся наўскач*
*панадворкам.*
*Азірае змяркане хату ў яблынях*
*месячным вокам.*
*Брат стрыечны, які, трохгадовы,*
*ўтапіўся у ставе,*
*свае граблі таксама ля сцяны, побач*
*з іншымі, ставіць.*

*Бабка сварыцца з ганка, што жартаў*
*даволі ўжо, годзе,*
*(з маладзіцамі жарты да граха,*
*як вядома, даводзяць!).*

*Пад насценнаю лямпай на доўгім стале*
*мноства місак:*
*там тварог з малаком, між якім шнырыць*
*бляск вёрткім лісам;*

*(шчэ ніхто не сядае за стол,*
*шчэ вядзецца бяседа*
*у чаканні на ўсіх. Хай вяртаюцца*
*з белага свету,*

*хай прыходзяць з акопаў і сцюж,*
*са счарнелага глогу,*
*з невядомых расстанняў-разлук,*
*з меандрычнай дарогі).*

*Вокны насцеж, і з цемрадзі, што загусае*
*жывіцай,*
*цвыркуны і мацейка, спакушоныя лямпай*
*начніцы.*

*Вечар знойку зычлівы, таму мітусні ані*
*звання.*
*У абуджаным рэху выцікоўваю столькі*
*вяртання!..*

*Вечар гэтакі ціхі, што па лесе,*
*як прывід, блукаю,*
*а ўсе чыста імёны абліччы свае*
*спатыкаюць.*

*Лямпа там, па-за лесам, тварагу там*
*цэлыя горы.*
*Упаду на мурог у адрыне, знясілены*
*зморай.*

*Блаславёна часіна, якая ўсім дорыць*
*вяртанне,*
*нават зайцу таму, нават зайцу, што*
*бацька падраніў.*

* * *

*Зорка,*
*як нечым уражана,*
*падае.*
*Дрэва,*
*як некім паранена,*
*сохне.*
*Чалавек,*
*як блуканнямі змучаны,*
*стукае ў дзверы чужыя.*
*Падчас адчыняюцца.*

* * *

*Букавы лесе,*
*папаратнюсны!*
*Золкай расінкай*
*восень на вуснах.*

*Мілая, ў восень*
*рушым без жалю.*
*Гэта рабіне*
*замала каралу.*

*Глянь, колькі ў букаў*
*звабы яснотнай!*
*З плячэй іх срэбра*
*не змые слота.*

*Не сум, не смутак —*
*зачараванне.*
*Прымі, як калісь,*
*маё прызнанне.*

# ПА ЛЕСЕ

*Ах, што за вечар! Сані —*
*да лесу, міма нас.*
*Звярніце к той паляне,*
*дзе белы йграе час.*

*Як хораша юнацтву.*
*Смех бомаў залаты.*
*Як шкло хрупасткі, наст той*
*разносьце, капыты!*

*Снягі, пераклікание,*
*ад позіркаў аж бляск.*
*О, з маладымі сані,*
*з сабой вазьміце й нас!*

**П'ЕР ЖАН БЕРАНЖЭ**
**з французскай**

# СТАРЫ ЖАБРАК

*Ну, вось і ўсё. У прыдарожнай яме,*
*Знямоглы, хворы, жду канца свайго.*
*А людзі, пэўна, думаюць, што п'яны...*
*Тым лепш! Мне іхні жаль ні да чаго.*
*Ах, людзі, людзі, вочы не адводзьце,*
*А медзякі ўжо вашы не ў пару.*
*На фэсты, на піры — хутчэй праходзьце!*
*Стары жабрак, без вас я, сам памру.*

*Вось дзе са свету прыбірае старасць.*
*Бо ўжо ж не голад — галадаць прывык.*
*Меў на лякарню ўсе надзеі, марыў,*
*Што там сканаю, маю ўсе правы.*
*Але куды ні ткніся — ані блізка:*
*Галеча, гора — нібы на бяду.*
*Што ж, вуліца, была ты мне калыскай,—*
*Стары жабрак, тут і труну знайду.*

*Калісь прасіў я, малады, здаровы,*
*Каб навучылі рамяству мяне.*
*«Прэч! — быў адказ рамеснікаў*
*суровы.—*
*Саміх жабрацтва хутка не міне».*

*Вы ж, багацеі, што — «працуй!» — крычалі,*
*Кідалі костку са стала падчас,*
*Паначавацъ у хлеве дазвалялі,—*
*Стары жабрак, не, не кляну я вас.*

*Я мог бы красці, горкі бедалага,*
*Навошта мне — па старцах лепш пайсці.*
*Хапала толькі на адно адвагі:*
*У полі бульбы ў торбу награбсці.*
*Ды імем караля за мной, бязвінным,*
*Не раз, не два турэмны ключ грымеў,*
*І гвалтам адбіралі скарб адзіны,—*
*Стары жабрак, я ж толькі сонца й меў.*

*Бадзяга ці радзіму мае зроду?*
*Што мне да вашых вінаў і хлябоў,*
*Да вашай славы, фабрык і заводаў*
*І да прыгожых ды пустых прамоў?*
*У доме вашым, што без бою здаўся,*
*І дзе захопнік вольна жыраваў,*
*Як дурань, я слязамі абліваўся,—*
*Стары жабрак, з яго рук хлеб я браў.*

*О людзі, людзі! Што не раздушылі,*
*Як чарвяка нікчэмнага, зараз?*
*Або чаму ж вы лепш не навучылі,*
*Як жыць мне на дабро для ўсіх для вас?*
*Не чарвяком, а мурашом я стаў бы,*
*Страчаў бы ў шчасці кожную зару,*
*Вас, як братоў, любіў бы, шанаваў бы,—*
*Стары жабрак, як вораг ваш памру!*

**ЛУІ АРАГОН**
*з французскай*

# ГІМН ЭЛЬЗЕ. УВЕРЦЮРА

*Даткнуся да цябе і веру і не веру*
*Што час разлук мінуў што разам мы не*
*ў сне*
*Ты побач ты са мной і я твая імперыя*
*На гора і на шчасце вернае*
*І ўсё ж здаешся ты такой далёкай мне*

*Калыша нас нясе ў краіну цудаў слодыч*
*Але прачнуся я вярнуся з царстваў тых*
*Маё дыханне ў твар табе нібыта словы*
*Нібыта жджэ нас ростань знову*
*Не варухнешся ты ты ўжо не чуеш іх*

*Заснула доўга я лаўлю яе маўчанне*
*І як ігрок які чытае на касцях*
*Свой пройгрыш да грудзей тулю яе*
*адчайна*
*Бяссільны перад гэтай тайнай*
*Неспасцігальнай тайнай быцця і небыцця*

*А потым новы дзень з адсутнасці таемнай*
*Цудоўней ад святла яе мне верне зноў*
*І стане дзень працягам ночы неаб'емнай*

*Бо з ёю вечна неад'емна*
*Пяшчота цемнаты як сон найлепшых сноў*

*Жыццё як спеў п'янкі мільгне мы поўнім*
*чару*
*О жонка о мой боль мой бог трынаццаць*
*год*
*Выследжваў бы тваё напеўнае маўчанне*
*Ніколі гэтымі вачамі*
*Не наталяючы ўжо голаду майго*

*Трынаццаць хмельных год трынаццаць*
*зім і летаў*
*Трымцеў бы над табой хімеры цікаваў*
*Трынаццаць год у страху*
*пяшчотна-горкім гэтым*
*Калі ўсе небяспекі свету*
*Прыдуманыя мной набожна б замаўляў*

*Як мала для каханкаў тысячы й адной*
*ночы*
*Трынаццаць год як дзень агонь*
*няшчадны той*
*Што па шматку папеліць хочаш ці*
*не хочаш*
*Кілім наш па якому крочым*
*Магічны наш кілім самотнасці святой*

## *ПОЛЬ ЭЛЮАР*
## *з французскай*

### * * *

*Мы не па аднаму да мэты пойдзем а па двое*
*Пазнаючы сябе папарна мы ўвесь свет пазнаем*
*І прыйдзе к нам любоў і дзеці нашыя смяяцца будуць*
*З легенды чорнае дзе плача адзінокі.*

## *КРЫСЦІНА ДЭ ПІЗАН*
*з французскай*

# *БАЛАДА*

*У самоце, і прагну застацца ў самоце,*
*у самоце пакінуў мяне мой каханы,*
*у самоце, без друга і ягамосці,*
*у самоце з адчаем, з журбой нечуванай,*
*ў самоце ў цярпенні звыш сіл апантаным,*
*непапраўнай бязвыхаднасцю здратаваная,*
*у самоце і немілаваная.*

*У самоце ля вокан, ля брамы ў самоце,*
*у самоце на дворышчы, ценем затканым,*
*у самоце, каб горкай слязою зыходзіць,*
*у самоце ў маўчанні і енку скаваным,*
*у самоце з усім, што наканавана,*
*быць наложніцай сцен чатырох пакараная,*
*у самоце і немілаваная.*

*у самоце заўжды, і паўсюдна ў самоце,*
*у самоце, куды ні пайду, дзе ні стану,*
*у самоце, дзе з розумам сэрца ў нязгодзе,*
*у самоце з маркотаю неўтаймаванай,*
*у самоце з нічым не загойнаю ранай,*
*занядбаная ўсімі, нідзе не чаканая,*
*у самоце і немілаваная.*

---

# ТАК ГЭТА НЯЛЁГКА

*Як гэта нялёгка — вясёлай быць*
*песеньцы ў болі,*
*Як гэта пакутна — у цуглях адчаю*
*ўсміхацца,*
*Сярод весялосці чужой бестурботнай*
*здавацца,*
*Хоць сэрца не мае ад роспачы чорнай*
*патолі.*
*Ды трэба рабіць, як усе. Ні знарок,*
*ні міжволі,*
*Ні рухам, ні словам пра мукі свае*
*не прызнацца.*
*Так гэта нялёгка — вясёлай быць*
*песеньцы ў болі.*
*Ніколі яшчэ не карала бязлітасней доля.*
*Як гора схавала, ад лёсу свайго*
*не схавацца.*
*Хоць душаць рыданні, мне трэба, мне*
*трэба смяяцца,*
*Каб боль мой па імені не адазваўся*
*ніколі.*
*Так гэта нялёгка — вясёлай быць*
*песеньцы ў болі.*

*ШАРЛЬ АРЛЕАНСКІ*
*з французскай*

# *РАНДО*

*Абяцаеш мне вечна: «Прыйду, я прыйду».*
*О надзея! Цябе я да кропелькі вызнаў,*
*Абяцанкі твае толькі сэрцу труцізна,*
*Бо заўжды я табой ашуканы брыду.*

*Каб жа зведала ты маю скруху-нуду,*
*Лёгкай птушкай над ёй праляцела б наўмысна.*
*Абяцаеш мне вечна: «Прыйду, я прыйду».*
*О надзея! Цябе я да кропелькі вызнаў.*

*Не аддзячыш спаўна мне, пакуль горкіх дум*
*Не аблегчыць хоць трошкі з рукі тваёй існасць.*
*Пра душэўны спакой я ўжо гэтулькі выснiў...*
*Што ж ты, жорсткая, толькі, нібы на бяду,*
*Абяцаеш мне вечна: «Прыйду, я прыйду»?*

# РАНДО

З бяздоннай студні ўдумнасці маёй
Ваду надзеі ўпарта здабываю,
Бездапаможны, часта ж выяўляю,
Што перасох струмень гаючы мой.

Крынічная, крыштальная парой,
Парою каламутная, цвілая.
З бяздоннай студні ўдумнасці маёй
Ваду надзеі ўпарта здабываю.

Атрамант расціраю дбайна ў ёй,
Паперы ліст бяру, ды падступае
Падступны лёс, паперу шкуматае
І ўсё шпурляе ў жорсткасці сваёй
У бездань студні ўдумнасці маёй.

# РАНДО

*Даўно ўжо сыты мною свет,*
*Так, як і я даўно ім сыты;*
*Усё глухой імглой спавіта,*
*Хаця б дзе-кольвечы прасвет.*

*Дарма... Адны аскалы бед,*
*Тугі, распусты непрыкрытай.*
*Даўно ўжо сыты мною свет,*
*Так, як і я даўно ім сыты.*

*Душу аддай за веры цвет,*
*Калючкі ж задарма — і квіты;*
*Ці ж дзіўна, што так хваравіта*
*Кладзецца скарга ў запавет;*
*Даўно ўжо сыты мною свет.*

## ЗМЕСТ

### Вершы

**Пераклады**

**Мацяш Н.**

М 36 Ралля суровая. Вершы і пераклады. Мн., «Маст. літ.», 1976.

80 с. з іл.

Зборнік Ніны Мацяш «Ралля суровая» склалі вершы аб мужнасці савецкага чалавека, аб радасці жыцця, аб роднай прыродзе.

У другі раздзел паэтэса ўключыла новыя пераклады.

**М $\frac{70403-179}{М 302(05)-76}$ 45-76** **Бел 2**

Нина Иосифовна Матяш. СУРОВАЯ ПАШНЯ.

На белорусском языке

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак Н. Л. Шаўшукова. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. Г. Законнікава.

АТ 21076. Здадзена ў набор 2/XII 1975 г. Падп. да друку 21/VI 1976 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,5. Ул.-выд. арк. 1,77. Зак. 892. Цана 16 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.